ТЕЛЕПРОГРАММА НА НЕДЕЛЮ

№ 15 (1578)

Субота, 25 студзеня 2003 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

Кошт свабодны.

# Народная Воля

### Надвор'е

Сёння ўдзень захаваецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, месцамі невялікія ападкі, пераважна мокры снег, слабы галалёд, туман, на асобных участках дарогі галалёдзіца. Вецер паўднёва-заходні, 3—8 м/с, па поўначы парывы да 12 м/с. Тэмпература паветра ў Віцебску, Магілёве — 0...-2, Гомелі, Мінску — каля 0, Гродне, Брэсце — 0...+2.

У наступныя двое сутак чакаецца воблачнае з праясненнямі надвор'е, у паўночных раёнах невялікія ападкі, месцамі туман, на дарогах галалёдзіца. Вецер заходні, 4—9 м/с. Тэмпература паветра ўначы — 0...-5, пры праясненнях да -7, удзень -2...+3.



## День памяти Михаила Пташука

*28 января режиссеру Михаилу Пташуку исполнилось бы 60 лет*

В этот день у могилы Михаила Пташука на кладбище по Московскому шоссе в Минске пройдет панихида. Затем в память о режиссере состоится встреча его коллег и друзей на Национальной киностудии "Беларусьфильм". Посвящением Михаилу Пташуку станет также творческий вечер в столичном кинотеатре "Москва". А завершит его показ фильма "В августе 44-го".

В конце минувшего года Минский горисполком принял решение установить в столице мемориальную доску Михаилу Пташуку.

**Наталья БЕГУН, БелТА.**

ЧУЛІ?

## Беларускія футбалісты адмовіліся ехаць у Ізраіль

*12 лютага беларуская зборная па футболе правядзе таварыскі матч. Як планавалася раней, у нашых футбалістаў будзе спарынг са зборнай Ізраіля. Аднак карэспандэнту "Народнай волі" стала вядома, што беларуская дружына ў апошні момант адмовілася ехаць у Ізраіль. Першым падаў пратэст капітан зборнай Беларусі **Сяргей ГУРЭНКА**. У прыватнасці, ён заявіў, што не мае намеру ехаць да здраднікаў. Што гэта азначае, мы вырашылі пацікавіцца ў самога Сяргея.*

— Справа ў тым, — сказаў Гурэнка, — што летась федэрацыя футбола Ізраіля дамовілася з нашай федэрацыяй правесці таварыскую сустрэчу. Але ў апошні момант яны "кінулі" нас, паехаўшы да літоўцаў. Падобны крок не апраўдваецца ніякімі тлумачэннямі. Таму і мы вырашылі з хлопцамі паступіць з імі падобным чынам. І ні на якія кампрамісы ісці не збіраемся.

**— А калі б спарынг з ізраільцянамі ўсё ж такі адбыўся, вы б паехалі ў іх краіну?**

— Чаму не? Яны таксама людзі, і ў тым, што адбываецца ў іх краіне, не вінаватыя. Кожны дзень я гляджу ізраільскае тэлебачанне і бачу, колькі тэрактаў там адбываецца. Нават, нягледзячы на нестабільную палітычную абстаноўку, мы б рызыкнулі паехаць.

**— Што ж цяпер?**

— Не самы горшы варыянт правесці двухбаковую гульню паміж беларусамі. Прагледзець кандыдатаў у зборную і даць шанс іншым гульцам даказаць, што яны дастойны абараняць гонар нашай краіны.

Паводле нашай інфармацыі, зборная Беларусі па футболе на чале з яе галоўным трэнерам Эдуардам Малафеевым плануюць правесці сустрэчу ў новым крытым манежы, які быў зусім нядаўна пабудаваны. Сустрэнуцца кандыдаты ў зборную, футбалісты, якія гуляюць за беларускія клубы, і гульцы асноўнага саставу — Гурэнка, Хацкевіч, Бялькевіч, Рамашчанка і інш.

І яшчэ адна навіна, якая прыйшла да нас са сталіцы Бельгіі. Варатар Генадзь Тумiловіч, які выступае за мясцовы клуб "Антверпен", вывеў сваю каманду ў паўфінал. Ён правёў на полі ўвесь асноўны час — 90 хвілін, і толькі адзін раз дазволіў саперніку забіць гол у свае вароты. Сустрэча ж закончылася з лікам 2:1 на карысць "Антверпена".

**Вольга РАМАНЮК.**

# Зварот

## Нацыянальнага арганізацыйнага камітэта па святкаванні 85-х угодкаў Беларускай Народнай Рэспублікі

Шаноўныя суайчыннікі!

25 сакавіка спаўняецца 85 гадоў з дня абвяшчэння дзяржаўнай незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі.

25 сакавіка 1918 г. Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, выконваючы волю I Усебеларускага кангрэса 1917 г. і маючы на гэта ўсе паўнамоцтвы, сваёй Трэцяй Устаўной граматай абвясціла Беларусь дэмакратычнай і незалежнай дзяржавай. Ад гэтага часу дзень 25 сакавіка з'яўляецца нацыянальным святам беларускага народа — Днём Волі, Днём Незалежнасці.

Утварэнне БНР адкрывала нам шлях у сям'ю вольных і самастойных дзяржаў Еўропы і свету. Лепшыя сыны і дочкі Бацькаўшчыны падтрымалі абвяшчэнне незалежнасці БНР. Радай і ўрадам БНР за кароткі тэрмін была праведзена вялікая работа па ўсталяванні дзяржаўных інстытутаў у Беларусі. Урад прыняў пастанову пра дзяржаўнасць беларускай мовы і абавязковае яе выкарыстанне ў афіцыйных дакументах. Пачалі адкрывацца беларускія школы, былі прыняты захады для стварэння нацыянальнага універсітэта, выходзілі беларускія газеты і часопісы, працаваў беларускі нацыянальны тэатр. Беларуская ўлада ўзяла пад сваю кампетэнцыю прамысловасць, гандаль і сацыяльную апеку. Урад БНР разгарнуў актыўную знешнюю палітыку і дамогся фармальнага і фактычнага прызнання БНР шэрагам краін.

Але ў канцы 1918 г. тэрыторыя Беларусі была занята войскамі савецкай Расіі і на нашай зямлі была ўстаноўлена савецкая ўлада. І ўсё ж бальшавікі вымушаны былі лічыцца з імкненнем беларусаў да ўтварэння самастойнай дзяржавы. Таму, у процівагу БНР яны абвясцілі БССР з фіктыўным суверэнітэтам. Кіраванне БССР праводзілася дырэктывамі з Масквы, адбывалася бязлітаснае вынішчэнне асноў нацыянальна-культурнага, гаспадарчага і фізічнага існавання беларусаў. Мэтанакіравана беларуская мова выцяснялася з афіцыйнага ўжытку і навучальных устаноў. Вынішчаліся і высылаліся ў лагеры дзеячы беларускага адраджэння — палітыкі, вучоныя, пісьменнікі, настаўнікі, рабочыя, сяляне, святары, вайскоўцы, былі рэпрэсаваны цэлыя пласты беларускага грамадства.

Аднак ідэі незалежнасці і справядлівасці не перасталі жыць у нашым народзе. Менавіта Акт 25 сакавіка 1918 г. стаў узорам пры аднаўленні незалежнасці Беларусі ў 1991 г., а сімвалы БНР — герб Пагоня і бел-чырвона-белы сцяг — зацверджаны дзяржаўнымі сімваламі краіны. Але нацыянальна-адраджэнскаму руху не ўдалося дамагчыся незваротнасці распачатых палітычных і эканамічных змен.

Ад 1994 г. антыбеларускія сілы, якія знаходзяцца ва ўладзе, пры дапамозе Масквы пачалі наступ на ўсё нацыянальнае. Знішчаецца духоўны патэнцыял нацыі. Ідзе планамерны наступ на беларускую мову і культуру. Наша краіна апынулася ў ізаляцыі ад крыніц інвестыцый і сучасных тэхналогій. Няспынная інфляцыя і пастаянны рост цэн прывялі да жабрацкага стану большасць насельніцтва. Апошнія дзесяць гадоў адбываецца няўхільнае змяншэнне насельніцтва. Расійскія капіталістычныя канцэрны пачалі захоп беларускай маёмасці. Над Беларуссю навісла пагроза страты незалежнасці, захопу яе тэрыторыі і ўключэння ў склад Расіі. Збанкрутаваны рэжым ідзе на ўступкі расійскім імперыялістычным колам.

Аднак незалежнасць Беларусі з'яўляецца набыткам не толькі сённяшняга пакалення, але і нашых продкаў і належыць нашчадкам. Суверэнітэт краіны, замацаваны Канстытуцыяй, не можа быць абмежаваны або скасаваны праз дамовы дзяржаўных асоб і органаў, нават праз рэферэндум.

Усебеларускі з'езд за незалежнасць, які адбыўся 29 ліпеня 2000 г., у сваіх рашэннях пацвердзіў усе асноўныя пастулаты БНР і курс на захаванне дзяржаўнага суверэнітэту Беларусі.

Незалежнасць з'яўляецца гарантыяй існавання Беларусі як нацыянальнай дэмакратычнай дзяржавы, гарантыяй станаўлення грамадзянскай супольнасці, абуджэння і ўмацавання нацыянальнай самасвядомасці, гарантыяй адраджэння беларускай мовы, культуры, эканомікі. Выйсцем з сённяшняй крызіснай сітуацыі можа быць толькі ўтварэнне канстытуцыйным шляхам улады, якая будзе няўхільна абараняць нацыянальныя інтарэсы, імкнуцца інтэграваць Беларусь у еўрапейскую эканамічную прастору.

Пагроза, што навісла над незалежнасцю Беларусі, павінна аб'яднаць усіх грамадзян краіны, усе палітычныя сілы, якія выступаюць за дзяржаўны суверэнітэт Рэспублікі Беларусь.

Мы заклікаем грамадзян Беларусі шчыра і актыўна адсвяткаваць вялікую дату — 85-я ўгодкі незалежнасці Беларускай Народнай Рэспублікі. Жыве Беларусь!

*Аргкамітэт:*

**Анатоль ГРЫЦКЕВІЧ,
Сяргей ЗАКОННІКАЎ,
Вольга ІПАТАВА,
Рыгор БАРАДУЛІН,
Генадзь БУРАЎКІН,
Радзім ГАРЭЦКІ,
Ніл ГІЛЕВІЧ,
Зінаіда БАНДАРЭНКА,
Уладзімір БАСАЛЫГА,
Янка БРЫЛЬ,
Васіль ЗУЁНАК,
Уладзімір КОНАН,
Мікола КРУКОЎСКІ,
Леанід ЛЫЧ,
Валеры МАЗЫНСКІ,
Адам МАЛЬДЗІС,
Мікола МАРКЕВІЧ,
Алесь ПАШКЕВІЧ,
Аляксей РАГУЛЯ,
Аляксей САЛАМОНАЎ,
Георгі ШТЫХАЎ.**

ПУЛЬС

## Будзе 400 студэнтаў на 10 тысяч жыхароў

У 2002 годзе ў Беларусі на 10 тысяч жыхароў прыпадала 340 студэнтаў, а праз два-тры гады, паводле прагнозаў, колькасць студэнтаў у гэтых суадносінах павялічыцца да 400 чалавек. Аб гэтым на выніковым пасяджэнні калегіі Міністэрства адукацыі паведаміў яго кіраўнік Пётр Брыгадзін. Паводле яго слоў, такія даныя сведчаць аб тым, што вышэйшая адукацыя ў Беларусі стала масавай.

**Вольга ШВАЙКО, БелТА.**

## Румынія змяніла парадак уезду

Пасля 26 студзеня 2003 года ўсім беларускім грамадзянам, акрамя ўладальнікаў дыпламатычных і службовых пашпартоў, віза будзе выдавацца на падставе запрашэння, афармленага кампетэнтнымі органамі Румыніі ва ўстаноўленым парадку.

Пры ўездзе на тэрыторыю Румыніі беларускія грамадзяне абавязаны апроч візы прад'явіць запрашэнне (раней дастаткова было толькі візы) або доказ наяўнасці сродкаў у суме 100 еўра на кожны дзень знаходжання ў Румыніі. У адваротным выпадку ва ўездзе ім будзе адмоўлена.

Патрабаванне аб прад'яўленні сродкаў, эквівалентных 100 еўра на кожны дзень, дзейнічае таксама і пры транзіце праз тэрыторыю краіны. Румынская транзітная віза сапраўдная на працягу 5 дзён.

**Андрэй СЕРАДА.**

## Лепельшчына вымірае

Інакш, як трагедыяй, не назавеш дэмаграфічную сітуацыю ў Лепельскім раёне Віцебскай вобласці. Як сведчыць мясцовая статыстыка, за мінулы год тут нарадзілася каля 300 чалавек, а памерла 639. Многія пакінулі гэты свет у выніку гвалтоўных дзеянняў і дарожна-транспартных здарэнняў, значная частка атруцілася алкаголем і спіртавымі сурагатамі. Больш за 20 чалавек скончылі самагубствам, што таксама з'явілася вынікам злоўжывання спіртнымі напоямі.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

МІНСК—МАСКВА

## На што намякае Пракаповіч?

*Вытрымаўшы невялічкую паўзу пасля завяршэння расійска-беларускіх перамоў на вышэйшым узроўні, старшыня Нацыянальнага банка Беларусі Пётр Пракаповіч правёў прэс-канферэнцыю. Галоўнай сенсацыяй з'яўляецца інфармацыя з яго вуснаў, што з 1 ліпеня бягучага года ў сістэме безнаяўных разлікаў у Беларусі пачнецца паралельнае абарачэнне беларускага і расійскага рублёў. Добраахвотнае знішчэнне нацыянальнай валюты працягваецца...*

Вось некаторыя меркаванні Пятра Пятровіча:

*"Сёння мае месца спазненне ў пытанні стварэння адзінай эканамічнай прасторы, аднолькавых умоў працы для прадпрыемстваў, роўных умоў для насельніцтва, адзінай мытнай прасторы і гэтак далей. Таму ўрадам трэба вельмі напружана папрацаваць, каб зліквідаваць гэтае спазненне. Таму што толькі пасля фарміравання адзінай эканамічнай прасторы можна ўводзіць агульную валюту. Што тычыцца пытання стварэння адзінага эмісійнага цэнтра, то гэтае пытанне яшчэ не вырашана... Пакуль бакі застаюцца на старых пазіцыях адносна стварэння саюзнага эмісійнага цэнтра. Беларусь дамагаецца, каб ён быў заснаваны на роўных з Расіяй умовах і каб бакі мелі аднолькавыя правы ў пытанні эмісіі грошай".*

Узнікаюць дзве думкі. Па-першае, чаму нашым урадам трэба "вельмі напружана папрацаваць" дзеля стварэння адзінай эканамічнай прасторы менавіта зараз, калі выношванню ідэі так званага саюза Расіі і Беларусі хутка стукне сем гадоў? Атрымліваецца, што раней урады не займаліся гэтай працай? І, па-другое, шмат хто з членаў расійскай дэлегацыі і сам Пуцін падчас візіту ў Мінск неаднаразова падкрэслівалі, што эмісійны цэнтр будзе знаходзіцца ў Маскве, а расійскі рубель будзе адзінай валютай. Чаму ніхто з беларускіх топчыноўнікаў не пярэчыў прэзідэнту Расіі, калі ён быў у Мінску, і не спрабаваў з ім дыскуціраваць? Пуцін лічыць, што пытанне вырашанае, беларускі бок — што яно не вырашанае. Каму верыць?

На пытанне "Радыё "Свабода" "Што будзе з цяперашнімі беларускімі грашыма пасля ўвядзення расійскіх грошай?" сп. Пракаповіч адказаў наступным чынам: *"Калі мы ўвядзём наяўны расійскі рубель, то наяўныя беларускія рублі захаваем. Яны будуць ляжаць у нас у сховішчы. Кожны мудры гаспадар ніколі нічога не знішчае, а заўжды захоўвае".*

Ці не намякае гэтымі словамі П.П.П., што цяперашнія беларускія ўлады не вечныя і вяртанне да незалежнай грашова-валютнай палітыкі цалкам магчымае? Ніякі іншы намёк з яго слоў не вынікае.

**Алесь СІЛІЧ.
IREX/ProMedia.**

РЭПЛІКА

## Калі сам сябе не пахваліш...

*Як паведаміла інфармацыйнае агенцтва БелаПАН, першы віцэ-прэм'ер Сяргей Сідорскі даў высокую ацэнку рабоце Міністэрства прамысловасці ў 2002 годзе і папракнуў незалежныя СМІ за іх "скептычную ацэнку" вынікаў працы гэтай галіны. Вось цытата:*

"Першы віцэ-прэм'ер Сяргей Сідорскі лічыць, што праца Міністэрства прамысловасці ў 2002 годзе "заслугоўвае самай пахвальнай ацэнкі". Пра гэта ён заявіў у сваім выступленні 23 студзеня на калегіі міністэрства.

С.Сідорскі лічыць, што міністэрства "зрабіла правільны выбар, узяўшы курс на канкрэтную работу галін унутры Мінпрама". Пэўную ролю, паводле яго слоў, адыграла таксама "прапанова ўрада па аказанні падтрымкі прадпрыемствам, якія вызначаюць і цягнуць за сабой цэлыя галіны".

На думку першага віцэ-прэм'ера, "скептычная ацэнка" незалежнымі сродкамі масавай інфармацыі гадавых вынікаў міністэрства не адпавядае галоўнаму — якасці праведзенай работы. Паводле яго слоў, урад уважліва сачыў за сітуацыяй на значных для беларускай эканомікі прадпрыемствах. Савет міністраў хвалявала пытанне зніжэння аб'ёму тавараабменных аперацый (бартэра). У выніку іх удзельная вага паменшылася за год з 43 да 33 працэнтаў. У цэлым па міністэрству тавараабменныя аперацыі летась склалі 16 працэнтаў. У 2003 годзе перад Мінпрамам стаіць задача поўнасцю адысці ад бартэра ва ўзаемаразліках паміж суб'ектамі гаспадарання".

Вядома, пэўныя набыткі ёсць. Ніхто гэтага не аспрэчвае. Аднак вельмі цяжка пагадзіцца з такой пахвалой на адрас згаданага міністэрства.

Так, спадар Сідорскі адзначае, што міністэрства "зрабіла правільны выбар, узяўшы курс на канкрэтную работу галін унутры Мінпрама". Што ж атрымліваецца? Да мінулага года ў яго нават не было нацэленасці на канкрэтную работу? І толькі летась узялося за яе? І таму заслугоўвае "самай пахвальнай ацэнкі"?

Вядома, сальда знешняга гандлю за студзень—лістапад мінулага года адмоўнае ў суме 728 мільёнаў долараў. Летась выраслі запасы гатовай прадукцыі на складах. Трэць прадпрыемстваў — стратныя. І ўсё гэта заслугоўвае "самай пахвальнай ацэнкі"?

Што ж, калі сам сябе не пахваліш, то хто гэта зробіць? Ці не па гэтым прынцыпе дзейнічаюць кіраўнікі нашага ўрада?

**Яўген ТАЎГЕНЬ.**

## Наши дзюдоисты отправились в Москву за олимпийскими путевками

**Здесь пройдет международный турнир категории "Супер", на котором атлеты, кроме основных наград, получат рейтинговые очки, идущие в зачет для получения "олимпийских виз" в Грецию.**

Таких соревнований, сказал перед отъездом корреспонденту БелТА главный тренер национальной команды Магомед Рамазанов, в нынешнем и следующем году будет несколько, и на каждом из них надо занять место в четверке сильнейших.

На турнире в российской столице на татами в различных весовых категориях выйдут свыше двадцати представителей Беларуси. Своим оптимальным составом выступят женщины, а вот среди мужчин по объективным причинам отсутствуют известные Сергей Новиков, Юрий Рыбак, Сергей Шундиков и Руслан Шарапов. Но учитывая большой опыт этих дзюдоистов, отметил главный тренер, они наверстают упущенное на других зачетных турнирах.

**Вячеслав ДУТОВ, БелТА.**

ФАКТ І КАМЕНТАРЫЙ

## Чаму за чэкі «Маёмасць» нельга купіць акцыі «Нафтана» ці «Белшыны»?

Прэзідыум Савета міністраў Беларусі ўхваліў у цэлым праект указа Лукашэнкі "Аб рэалізацыі акцый асобных адкрытых акцыянерных таварыстваў, якія належаць Рэспубліцы Беларусь". Размова ідзе аб адкрытых акцыянерных таварыствах "Нафтан", "Палімір", "Белшына", "Гродна-Азот", "Гродна-Хімвалакно", а таксама аб Светлагорскім і Магілёўскім вытворчых аб'яднаннях "Хімвалакно", што акцыянуюцца. Вызначана, што акцыі першай эмісіі гэтых ААТ, якія належаць Беларусі, "рэалізуюцца толькі за грашовыя сродкі ва ўстаноўленым парадку".

Як паведаміў БелаПАН прэс-сакратар прэм'ер-міністра Іван Знаткевіч, па выніках абмеркавання ў праект будзе ўнесена дапаўненне, датычнае правоў членаў працоўных калектываў на набыццё акцый. Член працоўнага калектыву можа набыць акцыі гэтых ААТ за грошы і на суму не больш за 100 базавых велічыняў (цяпер — 1,2 млн. рублёў).

**Ірына САЗАНОВІЧ, БелаПАН.**

*Такім чынам, абмяняць свае чэкі "Маёмасць" на акцыі гэтых перспектыўных прадпрыемстваў грамадзянам Беларусі не ўдасца. Іх у невялікай колькасці могуць набыць члены працоўных калектываў названых прадпрыемстваў і то толькі за грошы.*

*А што ж нам рабіць з тымі чэкамі "Маёмасць", якія былі ўведзены з мэтай "справядлівай прыватызацыі" і ўдзелу кожнага ў падзеле агульнага "дзяржаўнага пірага"? З такім пытаннем грамадзяне працягваюць звяртацца ў рэдакцыю "Народнай волі". На руках насельніцтва яшчэ вялізная колькасць тых чэкаў, бо набываць на іх акцыі прадпрыемстваў, выдзеленых для "чэкавай прыватызацыі", людзі не хочуць. Яны мяркуюць, што многія з іх дыхаюць на ладан і таму разлічваць на нейкія дывідэнды ад набыцця іх акцый не прыходзіцца.*

*Перспектыўныя беларускія прадпрыемствы нафтахіміі, відаць, трапяць у рукі расійскіх алігархаў. Ужо заяўлена аб пераўтварэнні "Белтрансгаза" ў сумеснае расійска-беларускае прадпрыемства. Крыху раней беларускі пакет "Слаўнафты" трапіў у рукі расійскага алігарха Рамана Абрамовіча. Што ж застанецца нам, грамадзянам Беларусі? На акцыі якіх прадпрыемстваў мы абмяняем чэкі "Маёмасць"?*

**Алесь ДРАБЧУК.**

## Жонкі чыноўнікаў аб'ядноўваюцца?

*У Беларусі збіраюцца аднавіць клуб жонак вышэйшага кіраўніцтва краіны. Паводле папярэдняй інфармацыі, галоўнай мэтай нефармальнага аб'яднання будзе дабрачынная дзейнасць.*

Падобны клуб існаваў у Мінску ў сярэдзіне 90-х гадоў. У канцы 1995 года з ініцыятывай стварэння клуба выступіла жонка былога прэм'ер-міністра Беларусі Юлія Чыгір.

— Мяне падтрымалі амаль усе жанчыны, мужы якіх на той момант займалі высокія пасады, — расказвае Юлія Чыгір. — У склад арганізацыі ўвайшлі жонкі Ціцянкова, Русакевіча, Агальца, Мальцава, Захаранкі, Канаплёва, Далгалёва і іншых. Мне нават лягчэй сказаць, каго ў складзе клуба не было — жонак Мясніковіча і Марыніча.

Клуб быў нефармальны, арганізацыя нідзе афіцыйна не зарэгістравана. Я з'яўлялася старшынёй клуба. Галіна Радзівонаўна Лукашэнка — пачэснай старшынёй. У той час яна часта прыязджала ў Мінск, спынялася ў рэзідэнцыі прэзідэнта.

На свае пасяджэнні мы збіраліся рэгулярна. Хадзілі разам у тэатр, кафэ. І займаліся дабрачыннай дзейнасцю. На жаль, не паспелі зрабіць усё, што планавалі. Напрыклад, сабралі спіс таленавітых дзяцей краіны і хацелі матэрыяльна дапамагаць ім.

Аднак штосьці і зрабілі. Назбіралі грошай для каманды беларускіх параалімпійцаў, і толькі дзякуючы гэтаму яны змаглі ў маі 1996 года выступіць на Гульнях у Грэцыі. У мінскі інтэрнат для дзяцей са слабым зрокам купілі спецыяльныя сшыткі, тром юным скрыпачам прафінансавалі ўдзел у міжнародным конкурсе ў Італіі.

У канцы 1996 года, пасля таго як Міхаіл Чыгір падаў у адстаўку, мне прыйшлося пакінуць клуб. Неафіцыйна я падтрымлівала адносіны з некаторымі жанчынамі і ведаю, што клуб потым спыніў сваё існаванне.

Я вітаю адраджэнне традыцый, гэта вельмі добра, калі жанчыны не хочуць заставацца ў цені сваіх вядомых мужчын. Паверце мне, многія з жанчын ярчэйшыя за сваіх высокапастаўленых мужоў.

На думку Юліі Чыгір, клуб магла б узначаліць Ала Канаплёва — жонка віцэ-спікера Палаты прадстаўнікоў.

На жаль, звязацца з Алаю Канаплёвай не ўдалося. З былога месца працы — Міністэрства працы і сацыяльнай абароны — яна звольнілася. Можа, спадарыня Канаплёва і займаецца адраджэннем клуба?

Галіна Лукашэнка, якая і па сённяшні дзень жыве ў вёсцы Рыжкавічы Магілёўскай вобласці, запрашэнне ў элітарны жаночы клуб не атрымала. Аб гэтым у прыватнай гутарцы яна сказала аднаму з журналістаў мясцовай газеты. Аднак Галіна Лукашэнка заўважыла, што ў свой час з задавальненнем наведвала пасяджэнні клуба, якім кіравала Юлія Чыгір, і нават шкадуе, што арганізацыя праіснавала менш за год.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

СЛОВА И ДЕЛА

# Лукашенко когда-то беспощадно критиковал Кебича, а сам...

*25 мая 1991 года в "Народной газете" была опубликована статья Александра Лукашенко "Диктатура: белорусский вариант?". Вот что он писал в ней:*

***"...Где свобода предпринимательства? Где свобода торговать? Где свобода установления цен? Голого администрирования мы уже наелись тогда, когда зафиксировали цены в сельском хозяйстве и превратили эту отрасль в ничто... Мы его практически развалили и только потому, что проводим неправильную политику цен".***

*Вот уже больше восьми лет Александр Григорьевич во главе страны. Что же изменилось за это время в области свободы предпринимательства и цен, развития сельского хозяйства? Мы попросили ответить на этот вопрос компетентных специалистов: заместителя председателя Белорусской конфедерации промышленников и предпринимателей* ***Владимира КАРЯГИНА*** *и члена-корреспондента Национальной Академии наук* ***Ивана НИКИТЧЕНКО.*** *Вот их мнения.*



***Владимир КАРЯГИН:***

## «Пока не удалось решить ни одного вопроса»



К сожалению, за 10 лет многое изменилось в формах развития предпринимательства, но не по существу самой предпринимательской деятельности.

Расширились возможности открытия собственного дела, но резко возросли затраты на это и риск потерять его, личное имущество и свободу.

Лишь только обозначилась либерализация в ценообразовании, но по-прежнему предприниматель и предприятие сдержанны в возможностях учитывать реальные затраты и эффективно влиять на себестоимость продукции.

Особенно велики непроизводственные затраты. Нереформированные промышленные предприятия выполняют скорее социальные, а не экономические функции. Искусственная занятость, устаревшее оборудование, огромные издержки на социальную инфраструктуру приводят к высоким ценам на продукцию, услуги, и, в результате, к неконкурентоспособности последних.

Ценообразование обставлено множеством нормативных документов, инструкций, а не продиктовано рынком. Фиксированные цены на сельскохозяйственную продукцию, насильственное распределение товаров по фондам в торговле, индикативные цены во внешнеэкономической деятельности и государственный монополизм и протекционизм, извращенно понимаемое государственное предпринимательство — характерные признаки современной белорусской экономической практики.

Пока еще не удалось решить ни одного вопроса для развития экономики, и обнадеживает только то, что в невероятных муках выросли первые отечественные предприниматели и группа экономически мыслящих директоров средних и крупных предприятий в области производства и торговли.

Одним словом, нам всем предстоит дать настоящие ответы на вопросы, поставленные жизнью еще в 1991 году, высказанные многими экономистами, предпринимателями и руководителями, в том числе Александром Григорьевичем Лукашенко.

***Иван НИКИТЧЕНКО:***

## «Сельское хозяйство добила не предыдущая, а теперешняя власть...»



С резкого увеличения цен на промышленные изделия, включая сельскохозяйственную технику, минеральные удобрения, средства защиты, горюче-смазочные и другие материалы, и искусственного сдерживания закупочных цен на сельскохозяйственную продукцию начался подрыв экономики колхозов и госхозов. Судите сами. В 1991 году для того, чтобы приобрести минский трактор, хозяйству нужно было продать 2 тонны мяса или 18,3 тонны молока. Это означало, что на приобретение трактора нужно было откармливать примерно 6 голов крупного рогатого скота, или доить почти 6 коров.

Казалось бы, зная одну из главных причин подрыва экономики, Александр Лукашенко, получив практически неограниченную власть, тут же начнет ее устранять, т.е. балансировать цены на все, чем пользуется сельское хозяйство, и закупочные на сельскохозяйственную продукцию. Но этого, к сожалению, не случилось. Наоборот, разрыв увеличился. В 2001 году за один трактор производителям пришлось платить 18,3 тонны мяса или 91 тонну молока, для чего откармливалось уже 54 головы крупного рогатого скота или доилось 38 коров. То есть вместо сокращения диспаритета цен их разрыв увеличился в расчете на мясо в 9,1 раза, на молоко — в 5 раз.

Кроме того, в последние годы добавились другие, не менее губительные факторы для экономики сельского хозяйства. Это прежде всего обязательный госзаказ при заведомо убыточных ценах, не покрывающих всё возрастающие затраты. Продавать свою продукцию другому покупателю по договорным ценам колхозам и госхозам категорически запрещалось.

Положение усугубила порочная в своей основе система закупки сельскохозяйственной продукции, особенно животноводческой, когда между производителем и потребителем оказалась целая сеть посредников в лице перерабатывающих предприятий. Например, надоенное в хозяйстве молоко закупал районный молочный завод, зачитывая его по базисной жирности 3,4 процента. Оттуда оно после первичной обработки направлялось на молокозаводы в областные центры и Минск. При этом к закупочной цене добавлялось примерно 7 налогов и отчислений в различные фонды, а также собственные затраты. В результате цена молока возрастала почти в два раза. После соответствующей переработки его (разбавление до 3,2 — 1,5%, получение сливок, масла и других продуктов) областной завод направлял смежнику или в торговую сеть, тоже с добавлением к цене тех же платежей в бюджет и собственных затрат. Это тоже удваивало цену на продукцию. И наконец свой вклад вносила торговля, делая свою наценку.

После прохождения таких этапов розничная цена молочной продукции увеличивалась по отношению к закупочной в 4—5 раз. Хозяйства же от этого ничего не получали, а расчет с ними производился с задержкой в несколько месяцев. Отсюда колоссальные долги колхозов и госхозов, и как следствие — многомесячные задержки заработной платы.

Указанные факторы в основном продолжают действовать и сейчас, что грозит полным крахом общественному сельскому хозяйству. Это давно уже поняло население, которое, имея в своем распоряжении около 16 процентов пашни, на 85—90 процентов обеспечивает себя картофелем и овощами, более чем на 65 процентов — молоком, на 55 и более — мясом, производит свыше половины яиц.

К сожалению, и этому сектору создаются серьезные препятствия. Последние шаги руководства по введению в 2003 году фактически налога на лошадей и трактора, находящиеся в частной собственности, могут привести к спаду производства продукции в частном секторе. Опыт подобного налогообложения садов в сталинские времена уже был. Итог известен. Огромное количество садов было вырублено.

***

*Как видим, существенных изменений к лучшему не произошло. Упреки, высказанные Лукашенко в 1991 году к тогдашнему руководству, актуальны и сейчас. Так кто же мешает ему проводить правильную политику?*

*Мало времени прошло? Никак нет. Восемь с лишним лет — срок достаточно большой.*

*Оппозиция затесалась во власть, саботирует? Никак нет. Александр Лукашенко и на пушечный выстрел не подпускает к власти оппозицию?*

*Стихийные явления обрушились на страну? Никак нет. Как светило солнце над Беларусью — так и светит. Как сменяла весна зиму — так и сменяет.*

*Войной пошли соседи на нашу страну? Никак нет. Наоборот, и Польша, и Литва, и Россия с открытой душой встречают наших граждан, отоваривая их по полной программе. Вот уже даже питьевую воду поставляют в Беларусь те же россияне.*

*Вопросов можно ставить множество. К сожалению, ответы на них не в пользу А.Лукашенко. Он беспощадно критиковал когда-то Кебича и его команду, а сам-то что сделал?*

*Этот вопрос, не исключено, возникнет у каждого, кто прочитает эту публикацию. Каждому из нас в отдельности и всем вместе и давать ответ на этот вопрос. Конкретными действиями, а не шушуканьем в курилках и на кухнях.*

**Евгений ТАВГЕНЬ.**

# Злепленая Галатэя,

## *альбо Пра пошласць на БТ*

Пра народныя грошы мы звычайна ўзгадваем, калі гаворым пра тое, ці добра дзяржава траціць нашы падаткі, бо заробкі ды пенсіі нашы не надта высокія. Узгадаў я народныя грошы ды сваю пенсію раніцай у панядзелак 20 студзеня, калі ўключыў першы дзяржаўны канал БТ на прагроме "Добрай раніцы, Беларусь!". Быў настолькі ўражаны, што нават занатаваў сёе-тое прыблізна з паловы 7-й на працягу амаль гадзіны. Хацеў бы падзяліцца сваімі думкамі. Бо гэта ж робіцца на нашы з вамі грошы, шаноўныя чытачы.

У добра асветленым нятанным інтэр'еры — сімпатычныя маладыя людзі: ён і яна. Яе я нават, калі не памыляюся, у адным айчынным баевіку бачыў. Прыемная маладзіца, усё пры ёй. І хлопец нішто сабе — сучасны і без комплексаў правінцыяльнасці. "Скразная" тэма раніцы — батанічны сад дома. Значыць, пэўныя сюжэты будуць клеіцца да яе... Забягаючы наперад, скажу, што тут хоць нешта больш-менш клеілася: рэцэпты салаты з дзьмухаўцоў і пялёсткаў ружы (вядучая абаяльна цмокала), даволі ўдалы сюжэт з Гродна (узгадалі Антонія Тызенгаўза), парад жаночых галаўных убораў "раслінна-жывёльнай" тэматыкі (хоць не зусім па тэме, але было цікава), парады па доглядзе раслін.

Але ж большасць з убачанага засмуціла. Вядучыя агучвалі шмат назваў пакаёвых раслін, але, падобна на тое, загадзя не рыхтаваліся, таму блыталіся ў вымаўленні, націсках, неяк няўклюдна пасміхаліся *(А ты ведаеш гэту расліну? Гы-гы... — Не, я не ведаю, гы-гы...).* Малады чалавек услых трэніраваўся, як слушна паставіць націск у слове "плюшч" у творным склоне — на першым ці на другім складзе — ды неяк дзіўна пасміхаўся. Пры разгадках "раслінных" сноў усё хуценька-вальяжна-подбегам артыкулявалася, абы нумар адбыць ды хвіліну пратрымацца, як Мальчыш-Кібальчыш. На слухача забыліся.

Абсалютна правальнай аказалася "ўсенародная гульня" (так назвалі яе вядучыя) *Разминка для розуму.* Чакаліся званкі слухачоў на "скразную тэму" з далейшым конкурсам "Выберы правільны адказ". Дэклараваліся прызы. Дыялогі былі прыблізна такія: *Как Вас зовут? Откуда Вы звоните? Какие растения есть у Вас дома? А-а-а, кактус, — как интересно! Ну, желаем Вам успеха!* Натуральна, што званкоў у гэты час набіралася ледзьве-ледзьве на дыялог. Непрыемна здзівіла, што вядучы-хлопец, пэўна, упершыню пачуў назвы беларускіх мястэчак, адкуль званілі. Я, седзячы дома, с першага разу ўсё пазнаваў. Ён жа, седзячы ў студыі, толькі тройчы перапытаўшы, *расслышал* беларускія тапонімы *Дзятлава і Шаркоўшчына.* Прычым не мог паўтарыць назвы і даць нейкую "геаграфічную" рэпліку, як гэта ён зрабіў, напрыклад, рэагуючы на званок са Ждановіч *(О, Ждановічы, — я там у Вас быў. У мяне там знаёмыя. Вы ўжо хутка будзеце ў межах Мінска!).* Маўчаў бездапаможна, як мыла з'еўшы.

Падчас конкурсу на прыз *"Добрай раніцы"* небарака-вядучы зноў загнаў сябе ў такі пасаж, пасля якога сумленнаму чалавеку хоць тапіся. Гледачы павінны былі адказаць, хто ўдыхнуў жыццё ў Галатэю, зробленую Пігмаліёнам, — муза Мельпамена ці пэўныя багіні (пытанне, безумоўна, цяжкаватае для спецыфічных ранішніх тэлефанаванняў). Агучваючы пытанне, вядучы двойчы дастаткова вальяжна замест *Мельпамена* выразна сказаў *Мельмапена* і толькі пасля далікатнай падказкі каляжанкі вымавіў *Мель-па-ме-на.* Акрамя ўсяго гэтага ён яшчэ паведаміў слухачам, што Пігмаліён *вылепил* Галатэю. Як вядома, гэты кіпрыйскі цар-адзінец, які пазбягаў знаёмстваў з жанчынамі, стварыў статую Галатэі, у якую потым і закахаўся, са *слановай косці.* Як можна нешта *зляпіць* з такога матэрыялу?

У рубрыцы "Новенькое и интересненькое" (неназойліва прыходзіць у галаву сюсюканне з расійскага "Времечко") прагучалі спрэс "глабальныя" інтэрнетаўскія "интересности": брытанскія дзеці пачалі горш вучыцца, хутка выйдзе 4-я частка "Матрыцы", адкрыты ген назапашвання тлушчу (для нас не вельмі актуальна), у Аўстраліі скралі вядомага папугая і г. д. І нічога "интересненького" з роднай Беларусі.

Былі дзве светлыя плямы ў *"Добрай раніцы"*: цудоўны літоўскі мультфільм пра маладога рыбака, русалку і грамавержца Перкунаса ды песня *"Каб любіць Беларусь нашу мілую"* ў выкананні хлопчыка гадоў 10—12 (на жаль, я не памятаю, ці былі адпаведныя цітры). Але і казка, і песня неяк узаемна прыгасіліся: мультфільм быў перарваны без усялякіх тлумачэнняў на самым цікавым месцы менавіта гэтай добрай песняй. Калі б я не быў аматарам беларускіх спеваў, я б пасердаваў: от жа ўлезлі са сваёй беларускай песняй! Пасля заканчэння песні вядучая "сюжэтна падключылася", дзяжурна прадэманстраваўшы захапленне маладым выканаўцам і зноў жа неяк беспрычынна зрабіла "гы-гы-гы" перад тым, як сказаць: "Вот какая у нас хорошая голосовая смена растет..." і яшчэ раз "гы-гы-гы".

Павагі да гледачоў ніякай. Вядучыя толькі самі для сябе ў кадры. Як бы з боку на сябе глядзяць: "А я ничего — молодец!" Нават трымаючы ў руках аўдыёкасету для прызёра, вядучы не палічыў неабходным назваць, што ж такое атрымае пераможца. З вуснаў вядучых не прагучала ніводнае прозвішча выканаўцаў.

Вяршыняй пошласці быў жарт з беларускай назвай "Смехата", які паўтараўся ў "абойме" сюжэтаў. Два пад грузін апранутыя мужчыны (адзін быў падобны на Крыжаноўскага) абмяркоўвалі рэцэпт прыгатавання "хорошего грузинского чая". Аксесуарамі тут былі "заварник" (так гаварылі "грузіны") і пакамечаная сурвэтка, як, дарэчы, і самі "грузіны". Галоўны "грузін" (той, што падобны на Крыжаноўскага) даў просты рэцэпт: пасля пяціхвіліннага памешвання змесціва лыжачкай улева-управа выліць усё на х... і заварыць звычайны індыйскі чай. Канешне, добрая рэклама індыйскага чаю і добры жарт для перакуру механізатараў... Грузіны фігуравалі і ў рэкламе гомельскага маргарыну: даволі прымітыўны імітатар грузінскага акцэнту паліваў маргарынам вялікую рыбіну. Прыкра. Халуйскія пазыкі вялікадзяржаўных жарцікаў пра чукчаў ды грузін не вельмі пасуюць беларускай ментальнасці. А калі гэта яшчэ мала таленавіта — то тым больш пошла.

Прыкладаў невуцтва, халтуры і пошласці, відавочна, набралася б больш, калі б я да канца паглядзеў перадачу. Падобна на тое, што стваральнікам такога кактэйлю падабаецца забаўляцца на народныя грошы. За свае такое б не рабілі. А так *зляпілі* сваю прымітыўную Галатэю і кахаюць-цешацца.

**Пётр САДОЎСКІ.**

## «Беларусь. Гістарычныя вандроўкі»

**Рэспубліканскі дзіцячы гістарычны літаратурна-мастацкі конкурс**

МГА "Згуртаванне беларусаў свету "Бацькаўшчына" запрашае школьнікаў Беларусі 12—14-гадовага ўзросту ўзяць удзел у конкурсе "Беларусь. Гістарычныя вандроўкі".

Конкурс праводзіцца па намінацыях:

1.Творы на гістарычную тэму: пра значныя падзеі, славутыя асобы гісторыі Беларусі, гістарычныя помнікі (сачыненне, балада, паэма, вершы, паданне).

2.Жывапісныя творы, прысвечаныя гістарычным падзеям, славутым асобам, помнікам гісторыі. (Фармат графічных і жывапісных работ — да 70 см па вялікім боку. Кожная праца павінна быць падпісана друкаваным шрыфтам на зваротным баку.)

Калектыўныя працы павінны мець суправаджальны ліст. Усе работы павінны мець зваротны адрас, прозвішча і імя ўдзельніка, узрост, па магчымасці кантактныя тэлефоны.

У сувязі з 450-годдзем Рэфармацыі асаблівая ўвага будзе ўдзяляцца работам, прысвечаным XVI стагоддзю Беларусі.

**Работы прымаюцца да 15 красавіка 2002 года.** Пераможцы конкурсу атрымаюць каштоўныя ўзнагароды.

Работы накіроўваць па адрасе: **220050, г.Мінск, вул.Рэвалюцыйная, 15, МГА "ЗБС "Бацькаўшчына".**

Літаратурныя творы можна накіроўваць электроннай поштай: **zbsb@lingvo.minsk.by**

*Кантактны тэлефон:*
**289-31-94.**



*Віцебск, міжнародны конкурс спартыўных бальных танцаў; студзень 2003 г.*

**Фота Аляксандра ХІТРОВА, БелТА.**

## Новыя кандыдаты ў спіс ЮНЕСКО

*Вызначаны 50 аб'ектаў беларускай архітэктуры для ўключэння ў Спіс сусветнай культурнай спадчыны ЮНЕСКО.*

Як вядома, толькі замкавы комплекс "Мір" XVI стагоддзя, размешчаны ў пасёлку Мір Карэліцкага раёна Гродзенскай вобласці, з 2001 года прадстаўляе беларускае дойлідства ў гэтым прэстыжным спісе. Новыя кандыдаты ў спіс: Каложская (Барысаглебская) царква XII стагоддзя ў Гродне, Сынковіцкая царква-крэпасць XV—XVI стагоддзяў у Зельвенскім раёне, Спаса-Еўфрасіннеўская царква XII стагоддзя ў Полацку, руіны Навагрудскага XIV—XVI стагоддзяў і Крэўскага XIV стагоддзя замкаў у Гродзенскай вобласці.

**Марат ГАРАВЫ.**

## Ад трактароў «Беларус» адсеклі пасрэднікаў

Для ўсіх прадпрыемстваў, працуючых у ланцугу Мінскага трактарнага завода (МТЗ), прыпыняецца дзеянне ліцэнзій на рэалізацыю трактароў "Беларус".

З 1 красавіка трактары ў Расіі будуць рэалізоўвацца толькі праз уласны гандлёвы дом МТЗ у Маскве, каб поўнасцю задзейнічаць дылерскую сетку і адысці ад "шэрых" трактароў.

Варта адзначыць, што пасрэдніцкія фірмы фігуруюць у крымінальнай справе былога дырэктара МТЗ Міхаіла Лявонава.

**Генадзь ШАРЫПКІН.**



# Мой Литвинский край

**Алексей КУЛАК**



*(Продолжение. Начало в №14)*

— Какую политику проводили местные власти? — спросил Илья.

— Вначале немцы старались ввести на захваченных территориях новый буржуазный порядок. Всячески поддерживалась частная собственность, где она еще была, а в восточных районах, где уже были колхозы, происходила раздача земли в частную собственность. Началась поддержка частной торговли, организовывались в городах большие базары, а поэтому они способствовали описанному в предыдущей публикации торговому обмену. Что касается политики, то немецкие власти стали активизировать белорусские националистические организации. В школах было введено обучение только на белорусском языке. Началась пропаганда произведений белорусских историков и писателей, репрессированных советской властью. В городах переименовывались улицы: восстанавливались старые названия, а также назывались именами репрессированных белорусских деятелей.

— Чем все это закончилось? — спросил Илья.

— В конце 1942 — начале 1943 года, когда немцы потерпели поражение под Сталинградом, они потеряли интерес к строительству буржуазного общества на оккупированных территориях. У наших людей началась меняться ориентация, поскольку впереди их ждал социализм. Победа Советской армии под Сталинградом ускорила развертывание партизанского движения. Одни люди включились в это движение по убеждению, а другие опасались, что сталинский режим не простит им пассивности. Они хорошо помнили довоенные репрессии. Новое движение привело к тому, что 22 сентября 1943 года в Минске служанкой из местного населения был убит гитлеровский ставленник В.Кубе, который поддерживал националистическое движение в Белоруссии. У нас здесь в Ивенецком районе был издан приказ немецкой администрации о регистрации бывших советских военных, оставшихся среди местного населения. Никто на эту регистрацию не явился, опасаясь, что отправят в Германию на работы. Сначала они скрывались, а затем пошли в партизаны. Численность партизан росла, как грибы после дождя.

— Что было дальше? — продолжал выпытывать Илья.

— Начались карательные экспедиции среди местного населения. Партизаны ночью прибывали и начинали поджигать помещичьи усадьбы и расстреливать тех помещиков, которые вернулись в свои усадьбы. Так, в нашей местности были сожжены все помещичьи усадьбы и расстрелян знакомый нам помещик из деревни Литва. Большинство членов семей помещиков и на этот раз успевали спрятаться.

Днем прибывали карательные отряды под руководством немецких офицеров, отыскивали и расстреливали те семьи, которые подозревались в связях с партизанами.

— Как вели себя партизаны с крестьянами? — спрашивал Илья.

— Партизанам надо было жить: одеваться и кушать, а это все можно было взять у населения. Если немцы и их службы жили за счет налогов от крестьян, то партизанам надо было добывать самим. Если одни это делали в пределах приличия — забирали, как они говорили, излишки, то другие это делали в привычной форме: через испуг, выстрел возле уха хозяина. Были и такие, которые пьянствовали, дебоширили и насиловали женщин.

— Мне не верится, что так было — с удивлением сказал Илья.

— Приведу тебе один эпизод, свидетелем которого я был, — продолжал Рыбак. — В нашу деревню заехали четыре партизана на лошадях, напились водки и начали стрелять в помещениях. У нас партизаны стреляли в помещениях, поскольку выстрелы на улице могли явиться сигналом для немецких войск. После попойки стали ловить женщин и насиловать их. Они изнасиловали нашу соседку. В этот момент вошел в деревню партизанский отряд, носивший название Сталинский, в составе 100 человек. Крестьяне пожаловались им на пьяных партизан. Командир отряда приказал поймать их и привести к нему. По его приказу собрали крестьян и перед ними расстреляли пойманных четырех партизан. Расстреляли за те безобразия, которые они творили. Крестьяне похоронили их на старом кладбище деревни.

— Я думаю, что на этом кончились безобразия? — спросил Илья.

— Как раз наоборот, после этого только всё и началось, — продолжил рассказчик. — Партизанский отряд, из которого расстреляли в нашей деревне четырех партизан, стал угрожать крестьянам за то, что они пожаловались. Грозились сжечь деревню и всех перестрелять. Так что крестьяне должны были молчать, поскольку их легко наказать: не только все забрать, но и сжечь их дома, как это делалось с усадьбами помещиков. Это обстоятельство явилось одной из причин, что во многих деревнях севернее Колонтаевого леса была организована самоохрана. Она заключалась в том, что крестьяне вооружались и охраняли сами свою деревню.

— Я нигде в литературе не встречал того, что вы мне рассказали. Особенно то, как себя вели партизаны относительно крестьян, — заметил Илья. Затем он поблагодарил рассказчика за ту информацию, которую получил в результате беседы. Все распрощались и разошлись.

В очередное воскресенье Илья вместе со всеми нами, внуками деда Антона, пошли в гости к Антонию Михайловичу Мойсе, который жил недалеко. Когда мы подошли к его усадьбе, он вышел из дома и встретил нас: "Я рад, что вы пришли ко мне в гости". После того как поздоровались, он стал знакомить Илью со своей усадьбой. У него был большой деревянный дом на два конца, ряд хозяйственных построек, большой фруктовый сад, где была пчелиная пасека. К концу знакомства с усадьбой Антоний сказал:

— На севере от моего хутора находится хутор среднего брата Владимира, который за польским часом работал в шахтах во Франции, а там — дальше к дороге, находится хутор моего старшего брата Викентия, который в 1920 году был красным комендантом одного из российских городов.

— Вас три брата, и хорошо, что хутора рядом расположены, — заметил Илья.

— Нас четыре брата, — сказал Антоний. — Один из наших братьев после революции и гражданской войны остался в России. В 1936 году я от него получил письмо из Испании, где он входил в состав Интернациональной бригады и воевал с фашистами. Позже я узнал, что когда он вернулся в Россию, был осужден советскими органами и расстрелян в 1938 году как польский шпион.

Антоний пригласил нас в дом. На столе уже стояли различные яства, и нас пригласила его жена Елена отведать угощение. Она была родом из Кулаков, то есть троюродная сестра деда Антона. Когда все разместились за столом, мужчинам были наполнены стопки водкой, а нам, внукам, медовухой. Из всех яств мне больше всего понравилось домашнее печенье, которое хозяйка испекла к нашему приходу.

Когда выпили и закусили, начался разговор, сначала о жизни в деревне, о красоте леса, который начинался от самого дома. Потом Илья сказал: я от своего родственника узнал, что в 1943 году возникла вражда между польскими и русскими партизанами. Расскажите, как это началось и к чему это привело. Об этих событиях я ничего не нашел в литературе по партизанскому движению, а хотелось бы знать, как это было в реальности.

*(Продолжение следует.)*

